# НОВАЕ ЖЫЦЬЦЁ

**Цана асобнага нумару 500 м. п.**

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільна, Вострабрамская вул., 9.**
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 штодня апрача сьвяточных дзён.

**Выходзіць раз у тыдзень.**

Падпіска на адзін месяц з дастаўкаў да хаты 2000 м. п. Для заграніцы ўдвая даражэй.

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад ня вертаюцца. Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 1000 мк., сярод тэксту 800 мк. і на апошняй страніцы 600 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

**№ 4** — **Субота, 24-га сакавіка 1923 г.** — **Год I.**


**У гэтым нумары 6-ць страніц.**

**УВАГА! Рэдакцыя і адміністрацыя газэты „НОВАЕ ЖЫЦЬЦЕ“ з 20-га сакавіка (марца) зьмешчаецца на ВОСТРАБРАМСКАЙ вул. № 9.**

## Палітычныя падзеі.

**Літва.** У часе галасаваньня над вотумам даверыя ўраду галасы ў Сойме разьдзяліліся: 36 за і 36 праціў. Урад Гальванаўскаса падаўся ў адстаўку. Прэзыдэнт выдаў дэкрэт аб роспуску Сойму. Новыя выбары адбудуцца 13 і 14 траўня. Насяленьне Клайпэды таксама прыме ўдзел у выбарах.

**Польшча.** Безрабоцьце з кожным днём павялічываецца. Па даным Галоўнага інспэктара працы на Варшаўскі вокруг за час ад 1 студня да канца лютага ў Варшаве агранічана прадукцыя ў 36 фабрыках болей як з 3.500 работнікаў, у тым ліку 14 фабрык з 1336 раб. зусім зачынена. Дзеля таго, што гэтыя даныя датычаць толькі большай прамысловасьці, трэба лічыць, што лік безработных шмат больш і, па думцы таго-ж інспэктара, безрабоцьце за гэты час узрасло па меншай меры на 160 працэнтаў. Агульны лік безработных па афіцыяльным даным дасягае 115.000.

Міністэрства фінансаў павялічыла падаткі: на цукер на 250 прац, на сьпірт на 400 прац і на піва на 750 прац.

**Нямеччына.** Адносіны паміж Францыяй і Нямеччынай прыймаюць усё болей востры характар. Французы акупавалі яшчэ новыя абшары. Газэты падаюць весткі аб нябывалым зьдзеку акупантаў над мяйсцовай люднасьцю, якая ўжо актыўна выступае праціў угнетацеляў. Забіта некалькі вайсковых. У адказ на гэта французы павялічылі рэпрэсыі да масавых арыштаў і разстрэлаў уключна. Калі ў адным выпадку насяленьне станула ў абароне арыштаваных, дык францускія жаўнеры сталі страляць і забілі некулькі чалавек. У акупаваныя абшары Францыя высылае яшчэ 15000 жаўнераў.

**Ірляндыя** ўвесь час вядзе змаганьне за сваю незалежнасьць, не застанаўляючыся перад аружнаю барацьбою. Арыштавана 150 ірляндзкіх рэспубліканцаў з прычыны падгатаўлянага, быццам, пакушэньня на Бонар-Лоу і Лёйд-Джорджа. З гэтай прычыны сацыялістычныя дэпутаты ўнясьлі ў парлямэнце інтэрпэляцыю.

**Англія.** Палата гмін адкінула прапазыцыю аб эвакуацыі Мэсапатаміі і прызнала крэдыты на расходы па акупацыі ў суме 813000 фунтаў штэрлінгаў, пры гэтым міністр калёній заявіў, што Мэсапатамія акупавана часова і ангельскі ўрад мае замер утварэньня незалежнай арабскай дзяржавы.

Сацыялісты запрапанавалі ў Палаце гмін праэкт рэзалюцыі, ў сілу якой урад паступова павінен імкнуцца да замены капіталістычнага строю сацыялістычным, нацыяналізуючы вялікія прамысловыя прадпрыемствы.

**Турцыя.** Ангорскае Нацыянальнае Сабраньне вынесла вотум даверыя ўраду Кемаля Пашы.

**Югаславія.** Адбыліся выбары ў парлямэнт. Радыкалы атрымалі 120 мандатаў, харвацкая сялянская партыя Радіча 70, дэмакраты 50, магаматанская група 18, клерыкалы 22, партыя земляўласьнікаў 9, немцы 9, сацыялісты 3.

### Даўгі Польшчы.

Як вядома да гэтага часу ў польскім бюджэце расход заўсёды быў больш як прыход. Для пакрыцьця гэтых перарасходаў Польскі ўрад павінен быў зацягіваць даўгі, як у сябе дома, так і за граніцай. Унутранных даўгоў, у тым ліку і выпушчаныя папяровыя грошы, якія, паскольку не пакрываюцца золатам, таксама належыць разглядаць як даўгі,— на 1 студня 1923 г. налічывалася на суму 228 мільёнаў швайц. франкаў, а загранічных даўгоў — 1519 мільёнаў шв. фр., гэта знача, што на кожнага жыхара ў Польшчы прыходзіцца па 62 шв. фр. доўгу. Калі да гэтага далічыць яшчэ тыя 400 мільёнаў франкаў, што нядаўна французкі ўрад пазычыў Польшчы, дык загранічныя даўгі дасягаюць цыфры блізкай 2 мільярдаў франкаў! Працэнты за гэтыя даўгі прыходзіцца пераважна плаціць працоўнаму люду ў форме тых ці іншых падаткаў.

### Літоўская прэса аб пастанове Рады паслоў.

„Elta“ наведамляе з Коўна, што літоўская прэса бяз рожніцы паглядаў катэгарычна выступае праціў пастановы Антанты адносна далучэньня Віленшчыны да Польшы. „Elta“ лічыць гэтую пастнову за бясправўную і няіснуючую. Антанта ў даным выпадку падтрымлівае польскі імпэрыялізм, выступаючы адначасна на шлях канфліктаў і ваеннай палітыкі. Саюзьнікі гэтай пастановай далі доказы свайго маральнага банкруцтва.

„Lietuva“, абгаварываючы справу прызнаньня ўсходніх граніц Польшчы, піша: „Літва, як дзяржава сувэрэнная, ніколі ня прызнае падзелу сваей тэрыторыі і ня вырачацца Вільні. Прызнаньне Вільні Польшчы было аднастаронным актам сілы, які для Літвы будзе неабавязковы і ня будзе мець для яе праўнага значэньня. Літва не пакіне жадаць Вільні“.

(„Dziennik Wilenski“ № 67).

### Справа усходніх межаў Польшчы.

Рада паслоў аканчальна прывала ўсходнія межы Польшчы. Граніца з Літвою устанаўляецца, згодна з пастановай Лігі Нацый аб разьмежаваньні нэйтральнай паласы; граніцы паміж Польшчаю і Расеею застаюцца, згодна з Рыскім трактатам; Усходняя Галіччына прылучаецца да Польшчы з варункам, што Польшча дасьць гарантыі аб увядзеньні там аўтаноміі і прыме на сябе частку даўгоў б. Аўстрыі, згодна з трактатам у С. Жэрмэн.

Пастанова Рады паслоў выклікала непакой сярод расейскай, украінскай і літоўскай эміграцыі ў Парыжы. Урад Петрушкевіча злажыў пратэст. З Коўны паведамляюць, што ў Літве гэтая пастанова выклікала страшнае абурэньне. Літоўскі Урад лічыў, што справа будзе разглядацца ў пачатку красавіка. З гэтай прычыны меліся выехаць да Парыжа старшыня Міністраў Гальванаўскас і Смэтона, каб бараніць справу Віленшчыны; люднасьць пераконана, што адзіная надзея Літвы ёсьць паразуменьне і супольная праца з Расеяй.

Літоўскі пасол Нарушэвіч злажыў пратэст праціў пастановы Рады паслоў.

Мітрапаліт Шэптыцкі прыбыў да Паража і на прыёме у Пуанкарэ горача пратэставаў праціў далучэньня Усходняй Галічыны да Польшчы.

Чычэрын выслаў ноту да ўрадаў Англіі, Францыіі і Італіі, ў якой адзначыў, што без паразуменьня з Расеяй ня могуць быць вырашаны спорныя пытаньня, ў якіх так ці іначай зацікаўлена Расея і што такая палітыка дае повад думаць, што Антанта ня выраклася сваей варожасьці адносна Расеі. Адсутнасьць прадстаўнікоў Расеі пры вырашэньні такіх пытаньняў, як Клайпэда і Усходняя Галіччына, можа выклікаць новую міжнародную завіруху. Хаця Расея і выраклася ад права да земляў на захад ад лініі Рыскага трактату, тым ня меней яна не перастае цікавіцца лёсам люднасьці гэтых земляў, дзяржаўная прыналежнасьць якіх павінна быць вырашана згодна з воляй насяленьня гэтых зямель.

Камісар Загранічных спраў Украінскай Савецкай Рэспублікі выслаў да Польскага Ураду ноту ў справе прызнаньня ўсходніх граніц Польшчы, ў якой катэгарычна пратэстуе праціў усякага урэгуляваньня паміма волі Ураду Сав. Украіны тэрыторый, якія беспасрэдна гранічацца з Украінай і маюць з ёю шмат агульных інтарэсаў.

Украінскі Урад лічыць за свой абавязак заявіць, што ён будзе лічыць за няважны і ня істнуючы ўселякі парадак установлены ў Усходняй Галіччыне без яго папярэджаньня і згоды самаго насяленьня.

Саюз Сацыялістычных Рэспублік мае намер склікаць новую канфэрэнцыю, якая павінна заняцца аканчальным вырашэньнем усходніх граніц Польшчы з поўнай згодай Саюзу.

Нямецкая газэта „Vorvarts“ выказывае трывогу аб магчымых новых забурэньняў па поваду далучэньня да Польшчы вялікіх абшараў зямель з няпольскім насяленьнем.

Латвійская газэта „Latvis“ шмат мейсца пасьвячае Віленскаму пытаньню, зазначаючы, што груба мыляецца той, хто думае быццам Клайпэда даражэй Літве як Вільня—ні адзін Літоўскі патрыот не аддасьць Вільню за Клайпэду.

### Украінская маніфэстацыя.

„Dziennik Wilenski“ ў № 66 паведамляе, што украінцы з лагеру Петрушэвіча зарганізавалі дэманстрацыю праціў рашэньня Рады паслоў аб прызнаньні граніц Польшчы. Выключаны з Сойму пасол Луцкевіч прыбыў да Львова і асабіста кіраваў дэманстрацыяй. Набажэнства адпраўленнае праз кс. Джэнокі і працэсыю па гэтым набажэнстве украінцы выкарысталі для палітычнай дэманстрацыі, ў якой прынялі ўдзел больш як дзьве з паловаю тысячы асоб.

Пасол Луцкевіч выступіў з падбураючаю антыдзяржаўнаю прамоваю. Прызываў распачаць найвастрэйшую барацьбу праціў Польскай дзяржавы і польскага войска і прызываў прысутных злажыць прысягу, што распачнуць змаганьне. Праф. Раманчук прачытаў тэкст прысягі.

**Па незалежных ад рэдакцыі прычынах артыкул, пасьвячоны 5-ым угодкам абвяшчэньня Беларусі Незалежнай Рэспублікай, ня мог быць зьмешчаны.**

## Беларускае сьвята.

На сьвяткаваньне 5-х угодкаў абвяшчэньня Беларусі Незалежнай Рэспублікі Беларускім Пасольскім Клюбам запрошаны ў Вільню гэткія пасольскія клюбы: Украінскі, Хрысьц. Дэмак., Пястоўцы, Камуністы, N.P.R., P.P.S., Нямецкі, Вызваленьне, Жыдоўскі, група Окуня, Расейцы.

Запрошаны таксама і прадстаўнікі Віленскага грамадзянства ўсіх нацыянальнасьцей.

### Парадак сьвяткаваньня.

А 10-ай гадзіне ўраніцы пачнецца Сьвятая Літургія ў царкве сьвят. Тройцы, якую мае правіць Архімандрыт Піліп у суслужэньні 6-х сьвяшчэнікаў. Прамову скажа сьвяшч. А. Сурвілла.

А 10-ай гадзіне ўраніцы пачнецца Сьвятая Імша ў касьцеле сьв. Мікалая, якую мае адправіць кс. Ад. Станкевіч.

Прамову скажа кс. Ад. Станкевіч.

Пасьля Сьв. Літургіі будзе адпраўлены малебен.

А 11-ай гадзіне ўраніцы адбудзецца набажэнства ў харальнай Сынагозе (Завальная вул.)

А 6-ай гадзіне ўвечары ў залі Беларускае Драматычнае Майстроўні (Вострабрамская 9) адбудзецца ўрачыстае паседжаньне Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

